# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№1 (227)
2019 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




НАША ЖЫЦЦЁ

## ЛІДАР ПА ШАЛЕНСТВУ

**Найбольшая колькасць шалёных жывёл у 2018 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці зафіксавана ў Бешанковіцкім раёне.**

У студзені-снежні 2018 гадоў ў вобласці зафіксавана 75 выпадкаў шаленства сярод жывёл супраць 89 годам раней, - канстатавалі спецыялісты.

У 2018-м, як і раней, часцей за ўсё ў ролі пераносчыкаў віруса шаленства на Віцебшчыне выступалі лісы. За мінулыя 12 месяцаў зафіксавана 38 падобных фактаў (годам раней - 51). Найбольш часта шалёныя лісы сустракаліся ў Бешанковіцкім, Аршанскім і Талачынскім раёнах. Характэрна, што двойчы заражаныя лісы выяўлены на тэрыторыі Оршы.

На другім месцы па распаўсюджанасці шаленства - хатнія сабакі (па 9 выяўленых жывёл было як у 2018, так і ў 2017 годзе), на трэцім - хатнія коткі (8 фактаў у 2018-м супраць 7 у 2017-м). За мінулы год таксама зарэгістравана 6 заражаныхшаленствамянотападобных сабак, 5 адзінак буйной рагатай жывёлы, 2 - дробнай рагатай жывёлы, па аднаму сабаку і ваўку, а таксама 2 адзінкі іншых дзікіх жывёл.

Найбольшая колькасць шалёных жывёл у 2018 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці зафіксавана ў Бешанковіцкім (24), Сенненскім (15), Аршанскім і Чашніцкім (па 7) раёнах.

Вядома, што колькасць выпадкаў захворвання на шаленства сярод жывёл у Беларусі ў 2017 годзе знізілася на 16,8%, у параўнанні з папярэднім годам, і склала 484 выпадкі. Часцей за ўсё шаленства рэгістравалася сярод лісіц і хатніх жывёл (сабак і котак), якія маюць гаспадароў. У пазамінулым годзе ў арганізацыі аховы здароўя за аказаннем антырабічнай дапамогі з прычыны ўкусаў, драпін і абслюнявання скурных пакроваў звярнуліся больш за 20 тысяч чалавек. Пры гэтым 500 чалавек звярнуліся па меддапамогу пасля кантакту з жывёламі, у якіх шаленства пацверджана лабараторна.

Шаленства - смяротная інфекцыя для жывёл і чалавека. Вірус шаленства паражае цэнтральную нервовую сістэму. Паднімаючыся па нервовых шляхах, ён дасягае галаўнога мозгу і выклікае яго запаленне (спецыфічны энцэфаліт). Асноўныя пераносчыкі віруса шаленства - дзікія жывёлы (ваўкі, лісы, дзікія кошкі, рысі, кажаны, вожыкі, грызуны), а таксама сельскагаспадарчыя і хатнія жывёлы. Калі вас ўкусіла шалёная жывёла, трэба хутка прамыць месца ўкусу праточнай вадой з мылам, краі раны апрацаваць ёдам і звярнуцца па дапамогу да ўрача. Спецыяліст ацэніць рызыку магчымага заражэння і прызначыць курс лячэння, калі гэта неабходна. Антырабічная дапамога аказваецца бясплатна.

**"СБ"**

## СА СЬВЯТАМ!

*Анічога прыдумаць я*
*для віншаваньня ня змог,*
*а пісаць Вам "здароўя і шчасьця",*
*напэўна, банальна.*
*Зычу Вам я, каб сонца*
*нарэшце адолела смог,*
*што атручвае ўсіх беларусаў*
*ушчэнт і павальна.*

*Зычу Вам, каб бяда*
*не хадзіла па вашым шляху,*
*каб не ладзілі з Вамі*
*хваробы і пошасьці веку.*
*І не спыніць свой бег у грудзёх*
*Ваша сэрца, пакуль*
*Вы ў бядзе пасабляеце*
*хоць аднаму чалавеку.*

*І няхай часам прыйдзецца біцца*
*як рыба аб лёд,*
*і адчай у грудзёх*
*вострай льдзінкай пранізвае сэрца,*
*у краіну бязьмежных надзей*
*кожны год Новы год,*
*разнасьцежвае ціха*
*свае патаемныя дзьверцы!*

**Г.Станкевіч**

***Партал твайго горада: http://beshankovichy.by***

ЗДАРОЎЕ

## АДЗІН З НЕДАБРАНАДЗЕЙНЫХ

**Паказчык распаўсюджанасці ВІЧ на Віцебшчыне адзін з самых нізкіх у краіне і практычна ўтрая ніжэй агульнарэспубліканскага. У цяперашні час у рэгіёне пражывае каля 1,1 тыс. людзей з вірусам імунадэфіцыту. Найбольш нядобранадзейнымі па распаўсюджанасці захворвання з'яўляюцца Лёзненскі, Талачынскі, Полацкі, Гарадоцкі, Бешанковіцкі, Віцебскі, Расонскі, Дубровенскі раёны і Віцебск.**

Віцебскае гарадское аддзяленне Беларускага грамадскага аб'яднання «Пазітыўны рух» абрана выканаўцам дзяржаўнага сацыяльнага заказу ў галіне прафілактыкі ВІЧ. Такое рашэнне прыняў аблвыканкам па выніках конкурсу.

Пра гэта паведаміла загадчык аддзела прафілактыкі ВІЧ / СНІД Віцебскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Валянціна Ананьева падчас пасяджэння абласнога міжведамаснага каардынацыйнага савета па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі і венерычных хвароб.

У рамках сацзамовы абласны бюджэт у канца 2018 года вылучыў больш за 1,9 тыс. рублёў на рэалізацыю асобных мерапрыемстваў падпраграмы «Прафілактыка ВІЧ-інфекцыі» Дзяржаўнай праграмы «Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь» на 2016-2020 гады.

Сродкі накіраваны ў прыватнасці на аказанне сацыяльнай і псіхалагічнай дапамогі людзям з 4-й стадыяй захворвання і фарміраванне прыхільнасці да лячэння, якая ў сваю чаргу паляпшае якасць жыцця і зніжае вірусную нагрузку да неопределяемого ўзроўню.

«Пазітыўны рух» не першы год аказвае падтрымку віцяблянам, якія жывуць з ВІЧ, на базе арганізацыі дзейнічае Цэнтр сацыяльнага суправаджэння «Быць побач».

Як запэўніла Валянціна Ананьева, у далейшым плануецца пашырыць дадзеную дзейнасць, ўключыць у сферу ўвагі ін'екцыйных наркаманаў і іншыя групы рызыкі ВІЧ-інфекцыі. Бюджэтныя сродкі на 2019 г. ужо прадугледжаны, а хто менавіта стане выканаўцам соцзамовы, зноў вызначыць конкурс.

Раней грамадскія арганізацыі, якія працуюць з дадзенай катэгорыяй грамадзян, атрымлівалі фінансаванне па розных праектах Глабальнага фонду. А сёння плячо ім падставіла дзяржава.

За мінулы год выяўлена больш за сто новых выпадкаў захворвання. Усё часцей вірус перадаецца палавым шляхам (па статыстыцы апошніх гадоў, больш за 90% агульнай колькасці інфіцыраваных) і атакуе ў асноўным людзей ва ўзросце 35-44 гадоў.

**"Віцебскія весткі"**

ЭКАНОМІКА

## ПАРАДОКСЫ ЭКАНОМІКІ

**Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў чарговыя даныя сацыяльна-эканамічнага развіцця раёнаў Беларусі за 11 месяцаў 2018 года.**

Але у статыстычным даведніку па Бешанковіцкаму раёну ёсць памылка. Згодна з даведнікам, у эканоміцы нашага раёна на 01.12.2018 працуе 6603 чалавекі. + 840 чалавек да лічбы за 2017 год! Калі б гэта было рэальнасцю, то ўсе бешанкоўскія чыноўнікі атрымалі б мінімум ордэны. Проста лічбу за 2017 год у даведніку памылкова занізілі на 1000.

Калі ж мы возьмем і павялічым гэту лічбу на 1000, то атрымаецца, што ў эканоміцы нашага раёна на 01.12.2017 працавала 6763 чалавекі, а ў 2018 толькі 6603. У выніку: мінус 160 чалавек. Вось гэта ўжо бліжэй да ісціны.

Аб'ём прамысловай вытворчасці за 11 месяцаў склаў 8,5 млн руб і не дацягнуў да 2017 года на 0,8 млн. Пра тое, які міззэрны гэты аб'ём гаворыць лічба, што ён складае толькі 0,1 % ад абласнога аб'ёму прамысловай вытворчасці.

Сельская гаспадарка. Атрымалі малака на 1% больш чым летась. А мо спісалі крыху больш на выпайку цялятам? І такое магчыма. Кармоў нарыхтавалі ў пераліку на кармавыя адзінкі аж на 2000 к.адз. менш, а вось на галаву пры гэтым атрымалася больш! (Плюс 8 кармавых адзінак.) Няўжо так рэзка скарацілася пагалоўе?

Заробкі. Намінальны налічаны сярэднемесячны заробак падвысіўся з 518,5 у 2017 годзе да 629,4 руб і склаў 78,4% ад абласнога ўзроўню. Але ж месяц таму ён складаў ад абласнога 78,6%! Значыцца, у вобласці заробкі растуць хутчэй.

Фінансы. Па выніках 11 месяцаў чысты прыбытак склаў 996 тыс рублёў. Але ж рэнтабельнасць пры гэтым адмоўная. Яна была летась мінус 0,5 %, а сёлета стала мінус 1,2%.

**М.Васільеў**

ПАЛІТЫКА

## БНР І БССР — НЯ РОДНЫЯ СЁСТРЫ І НАВАТ НЕ СВАЯЧКІ

**Сёньня даволі шмат беларусаў, нават некаторыя гісторыкі, найперш сярод занятых у дзяржаўных установах (ня блытаць з гісторыкамі афіцыёзнымі), бачаць Беларускую Народную Рэспубліку і БССР як дзьве формы беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці.**

Ставіць БССР у адзін шэраг і па адзін бок барыкады з БНР не дазваляе галоўны (і ён жа адзіны) крытэр — рацыя стану беларускага народу. Таму што БССР — антыпод і адмаўленьне БНР. Таму што БССР — той жа Паўночна-Заходні край, якому з тактычных мэтаў зьмянілі назву (і абвесілі мішурой з псэўдатрыбутамі дзяржаўнасьці). Таму што БССР была досьведнай пляцоўкай імпэрыі для адпрацоўкі спосабаў і мэханізмаў дэнацыяналізацыі і асыміляцыі. Ведаю, бо ў БССР нарадзіўся, вырас і праз тыя мэханізмы быў прапушчаны.

Галоўны контраргумэнт — без БССР не было б Рэспублікі Беларусі. І гэта праўда, але зусім недастаткова для рэабілітацыі савецкай Беларусі. У гісторыі не бывае прамых дарог і адназначна нэгатыўных або пазытыўных зьяваў. У 1939 годзе Славаччына здабыла незалежнасьць з ласкі Гітлера, славакі ў сваёй гістарычнай нарацыі не абмінаюць гэтага факту, але не сьпяшаюцца ім ганарыцца. У тым жа годзе адбылося ўзьяднаньне Беларусі праз змову Гітлера са Сталіным — нашыя гісторыкі вітаюць факт аб'яднаньня краіны, але пры гэтым адзначаюць, што тое адбылося ў выніку акту агрэсіі і стала аб'яднаньнем у адным канцлягеры.

У БССР была беларуская культура і літаратура, але трыманая ў рэзэрвацыі, было беларускае школьніцтва ў вёсках, але тупіковае, без працягу ў вышэйшай адукацыі. Была індустрыялізацыя, але не паводле ангельскай мадэлі (праз накапленьне капіталу) а па савецкай (коштам дабрабыту грамадзянаў) з урбанізацыяй, пры якой гарады ў Беларусі сталі асыміляцыйнымі русыфікацыйнымі катламі. Адзіная сьветлая пляма — г. зв.

*(працяг на стар. 2)*

ПАЛІТЫКА

*(пачатак на стар. №1)*
каранізацыя і беларусізацыя ў другой палове 20-х гадоў — аказалася ў выніку грандыёзнай чэкісцкай правакацыяй, апэрацыяй па выяўленьні беларускіх нацыяналістаў дзеля наступнай іх ліквідацыі.

Галоўная выснова з гістарычнага досьведу БССР — гэтая эрзац-дзяржава была не інструмэнтам рэалізацыі беларускіх нацыянальных інтарэсаў, а прыладай дэнацыяналізацыі і ліквідацыі беларусаў як этнічнай супольнасьці. Не даконча сваю справу яна толькі таму, што разваліўся Савецкі Саюз.

Сёньня казаць праўду — самая галоўная праблема беларусаў. Нашае яе ўніканьне стала сапраўднай хваробай, мы мірым непрымірымае ці прынамсі робім выгляд, што нам гэта ўдаецца.

Прымірэньне дэклярацыі нэўтралітэту Рэспублікі Беларусі з расейскімі вайсковымі базамі; дзяржаўнай незалежнасьці — з расейскім пратэктаратам (запаветная мара — газ па ўнутрырасейскіх цэнах); агітацыі за беларускую культуру — па-расейску.

Прымірэньне Плошчы Незалежнасьці з помнікам Леніну; савецкага міліцыянэра з царскім гарадавым (той самы скульптар ваяў, што і помнік Скарыну); Суворава — з Касьцюшкам; членскі білет БСРМ — з картай паляка; Чарнобыля — з Астравецкай АЭС.

Можна працягваць бясконца: малодшы сын — зь візытам у папы Рымскага; старэйшы сын — памочнік у нацыянальнай бясьпецы; ЭГУ — беларускі ўнівэрсытэт; Юры Зісер — герой Беларусі; галава царквы — замежны грамадзянін і г. д. і г. д. Прэзыдэнцкія мэрсэдэсы ды майбахі — «народныя» саманды, джылі, электрамабілі; праваахоўнікі — ілжэсьведчаньні ў судзе; кампанія «Говори правду» — і праўда; выраз «Лукашэнка — лідэр Беларусі» — апазыцыйныя мас-мэдыя.

Хіба лягічна будзе пачынаць казаць праўду ад гісторыкаў, што называецца, ад каранёў, ад вытокаў. Напрыклад, беларуская назва нашай сталіцы — Менск, а не Мінск. Нацыянальная мова беларусаў — беларуская, а расейская прынесеная на штыках імпэрыі.

Беларуская гістарычная навука пакуль яшчэ ня цалкам скінула баляст савецкай гістарыяграфічнай спадчыны, але гэта бачыцца толькі справай часу.

**Радыё Свабода**

ЗДАРЭННІ

# КРЫВАВЫ КАНФЛІКТ

**4-га студзеня ў газеце «Рэспубліка» размешчаны артыкул, дзе распавядаецца пра драму, якая нядаўна надарылася ў Бешанковіцкім раёне. Калі і дзе канкрэтна — не пазначана, мусіць, напрыканцы мінулага года ў адной з вёсак.**

Намеснік начальніка аддзела ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Віцебскага аблвыканкама Дзмітрый Зяцеў канстатуе, што адна з характэрных асаблівасцяў «крымінальных сужыцця» — гэта салідная розніца ва ўзросце.

Унашым выпадку ў Бешанковіцкім раёне 66-гадовы пенсіянер "прытуліў" ў доме 42-гадовую непрацуючую кабету, якая нядаўна вярнулася з ЛПП.

Жылі за кошт яго пенсіі, але так як у дзядулі ў Віцебску заставалася законная жонка, ён перыядычна наведваўся ў абласны цэнтр. Дзе, дарэчы, не аднойчы караўся за сямейныя скандалы, так як злоўжываў спіртным.

А пакуль сябар быў у адлучцы, яго сужыцелька часу дарма не губляла. Яна бавіла яго бурна, хадзіла па гасцях. Што і стала прычынай крывавага канфлікту. Пасля сумеснага застолля на глебе рэўнасці пенсіянер ударыў яе нажом у жывот, прычыніўшы цяжкія цялесныя пашкоджанні.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах МУС**

КУЛЬТУРА

# НЕВЯДОМЫ ХРУЦКІ

**«Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай» Івана Хруцкага (1810—1884) на невялічкім кавалку Мінска можна бачыць прынамсі тройчы. Тую самую карціну можна ўбачыць на паштовай марцы СССР 1983 года, а яе фрагменты — на рэверсе срэбранай манеты вартасцю 20 рублёў, выпушчанай Нацбанкам у 2010-м. Той жа нацюрморт упрыгожваў купюру вартасцю 1 000 рублёў, якая выйшла з абароту 2 гады таму ў сувязі з дэнамінацыяй…**

**Брэндавы мастак**

На першы погляд, Хруцкі ў жыцці дасягнуў нечуванага поспеху. У 1836 годзе мастак скончыў пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, і другая палова 1830-х стала для яго па-сапраўднаму зорнай часінай.

Што называецца, папаў у тэму: ягоныя нацюрморты цудоўна адпавядалі густам, сфарміраваным, з аднаго боку, жорсткай мікалаеўскай цэнзурай, а з другога — пашырэннем моды на імпартныя даброты. Кожны, хто імкнуўся не адстаць ад моды, жадаў мець у інтэр'еры нацюрморт ці хаця б пейзаж Хруцкага. Літаральна са студэнцкай лавы наш зямляк трапіў у «брэнды».

За кароткі час Хруцкі набірае папулярнасць і збірае цэлую калекцыю ўзнагарод. У 1836-м ён уганараваны за нацюрморты вялікім срэбраным медалём. У 1837-м імператар Мікалай I, які лічыў сябе знаўцам жывапісу, падарыў мастаку гадзіннік на залатым ланцужку «як заахвочванне да далейшай працы» за карціны, «якія паказваюць дзяцей, што гандлююць садавінай». Гэта, безумоўна, рэзка падняло каціроўкі ўдачлівага мастака. У наступным годзе адразу дзве ягоныя работы былі ўганараваныя малым залатым медалём на гадавым сходзе Акадэміі мастацтваў: нацюрморт «Кветкі і плады» і «Пажылая жанчына, якая вяжа шкарпэтку» — мабыць, сапраўды адзін з найбольш таленавітых яго партрэтаў.

Ну а вяршыня славы — званне акадэміка жывапісу, прысвоенае 29-гадоваму (!) майстру «за выдатныя работы ў партрэце, пейзажы і асабліва жывапісе пладоў і гароднін».

Мабыць, Хруцкаму ў гэты момант варта было б завесці цэлую фабрыку капііставў, каб задаволіць невычэрпны, як здавалася, попыт на нацюрморты і пейзажы, кантраляваць чаляднікаў «неграў», а асабіста пісаць толькі партрэты, якія таксама карысталіся вялікай папулярнасцю.

Замаўляла іх публіка нябедная, уплывовая — узроўню міністраў, сенатараў, акадэмікаў, губернатараў…

Сучасная мастацкая крытыка не ўгледзела б у большасці яго работ асаблівай арыгінальнасці і выбітнага майстэрства. Але ў гэтыя кароткія 4—5 гадоў ён вельмі добра адчуў тое, чаго прагне публіка, і старанна «штампаваў» усё новыя і новыя нацюрморты, на якія выстраілася доўгая чарга з заказчыкаў. Працы Хруцкага давалі сталічнай публіцы хісткае адчуванне поспеху і бяспекі.

**Паміж сям'ёй і дзяржавай**

Аднак на душы мастака ў гэтыя гады наўрад ці было так спакойна, як на яго палотнах. Пакуль ён вучыўся ў сталіцы імперыі (1827—1836), на радзіме жыццё рабілася ўсё цяжэйшым. Спачатку няўдалае паўстанне 1831 года. Потым закрыццё Віленскага ўніверсітэта, падрыхтоўка да ліквідацыі царкоўнай уніі…

Бацька мастака, Тамаш Хруцкі, уніяцкі святар з Лепельскага павета, быў адным з лідараў стыхійнага і безнадзейнага руху за захаванне уніі.

За гэта ў 1836 годзе яго саслалі ў манастыр і вызвалілі, толькі калі змаглі выцiснуць пакаянне. Аднак у 1838 годзе подпіс Тамаша Хруцкага фігуруе пад лістом-пратэстам 111-ці святароў Беларускай епархіі, якія чарговы раз выказваюць вернасць уніі. Не толькі канфесіі, але і фактычна цывілізацыйнай арыентацыі. Збор святароў і прыхаджан у Царкаўлянах Дрысенскага павета, на якім і падпісалі ліст, стаў найбольш значнай акцыяй пратэсту ўніятаў.

Іван Хруцкі быў пастаўлены лёсам у цэнтр гэтай грамадскай драмы. У тым самым 1838 годзе ён напісаў два партрэты найвышэйшых іерархаў Уніяцкай царквы. Стары мітрапаліт Язафат Булгак — пабожны, добразычлівы, але і прынцыповы чалавек, які адстойваў інтарэсы сваёй канфесіі дыпламатычна, але цвёрда. І намеснік, які дыхае старому ў патыліцу, — малады кар'ерыст, мэтанакіраваны, разумны і жорсткі Іосіф Сямашка. Сямашка ўжо таемна паабяцаў уладам ліквідаваць непажаданае веравызнанне «знутры» і метадычна дамагаецца сваёй мэты.

Драматычнае супрацьстаянне паміж героямі гэтых двух партрэтаў заслугоўвае добрага дэтэктыва. Хруцкі, як мала хто з мастакоў, разумеў увесь драматызм сітуацыі, таму і партрэты атрымаліся не шараговыя, поўныя схаванага сэнсу. Амаль адразу ж пасля пазіравання Булгак памірае, і Сямашка займае ягонае месца — дарога да ліквідацыі уніі адкрытая.

**Ціхая вернасць сабе**

У Полацку, дзе мастак правёў школьныя гады, на саборы Уніяцкай царквы 24 лютага 1839 года мітрапаліт Сямашка дамагаецца ліквідацыі уніі і пераходу ўніятаў ва ўлонне Праваслаўнай царквы. Бацька мастака, не вытрымаўшы гаротнай весткі, памірае. У сакавіку 1840 года Іван Хруцкі едзе на радзіму ўладжваць справы сям'і, у якой становіцца старэйшым.

Трэба падумаць, куды прыстроіць малодшых братоў (яны пойдуць па яго слядах, паступяць у Акадэмію мастацтваў), дзе пасяліцца асірацелай сям'і, дый пра жаніцьбу пара падумаць. Піша ён у гэтыя гады не вельмі шмат, больш партрэты і значна радзей нацюрморты.

У 1844 годзе мастак купляе маёнтак Захарнічы недалёка ад Полацка, на маляўнічым возеры, і будуе там класічны сядзібны дом. Вымушаную змену веравызнання мастак прыняў знешне спакойна: пратэставаць было бессэнсоўна. Але сімпатыі, выхаваныя бацькам, не пакідаюць яго і праяўляюцца самым розным чынам.

Па-першае, 35-гадовы Хруцкі жэніцца з 23-гадовай суседкай каталічкай Ганнай Адравуж-Бубноўскай, дачкой афіцэра яшчэ касцюшкаўскага войска. Дарэчы, з каталічкай пасля ажэніцца і ягоны сын Іосіф. Варта адзначыць, што пераход з праваслаўя ў каталіцызм у Расійскай імперыі быў забаронены і крымінальна караўся.

Па-другое, Хруцкі цяпер піша і не зусім звыклыя для добранадзейнага расійскага мастака сюжэты: то абраз Святога Казіміра, нябеснага патрона Літвы, на замову правінцыйнага літоўскага касцёла, то ўжо без усякай замовы, проста для сябе — партрэт Адама Міцкевіча адразу пасля смерці паэта ад халеры ў далёкім Стамбуле.

**Помста мітрапаліта**

Мітрапаліт Сямашка, мусіць, не без садысцкіх матываў, у жніўні 1846-га робіць Хруцкаму прапанову, ад якой немагчыма адмовіцца: запрашае ў Вільню аздабляць загарадную архірэйскую рэзідэнцыю і дамавую царкву пры ёй.

Рэзідэнцыяй стаў былы манастыр трынітарыяў у Трынапалі (цяпер Trinapolis на поўначы Вільні ў раёне Вяркі), зачынены пасля 1831 года, а царквой — барочны касцёл.

Ганарар, праўда, мітрапаліт прапануе не вельмі шчодры — тысячу рублёў срэбрам, але дае для жыцця сваю віленскую кватэру і забяспечвае стол. Праца зацягваецца, дробязны Сямашка патрабуе ўсё новых і новых бонусаў, прычым значная частка з іх — копіі класічных заходнееўрапейскіх карцін. Замоўца глыбока ўмешваецца і ў арыгінальныя сюжэты, старанна рэгламентуючы тэхнічныя параметры кожнай карціны: партрэтаў найбліжэйшых паплечнікаў Сямашкі, краявідаў Вільні і ваколіцаў…

Нарэшце праца былі скончаная. 1000 рублёў за восем патрачаных гадоў аказваюцца мізэрнай платай. Але для Хруцкага галоўнае — магчымасць вярнуцца ў Захарнічы…

Адна з апошніх работ — напісаны ў 1884 годзе, за год да смерці, аўтапартрэт. Як і ў многіх партрэтах Хруцкага, тут ужыты прыём кантраснага асвятлення — найбольш асветленыя твар і правая, «працоўная», рука. У аўтапартрэце адчуваецца годнасць, пачуцце ўласнай значнасці і нейкая затоеная горыч… Ці ўсё рэалізавана, пра што марылася? Ці былі кампрамісы вартыя заплачаная за іх цаны?

Памёр Іван Хруцкі 13 студзеня 1885 года, не дажыўшы два тыдні да 75-годдзя…

**Алесь Белы**
**"Наша Ніва"**

ЭКАНАМІЧНЫЯ ВЫНІКІ

# ВЫЖЫЦЬ НЯГЛЕДЗЯЧЫ НІ НА ШТО

**Эканоміка Беларусі жыве паводле Курта Ванегута, які пісаў, што галоўнае дасягненне чалавецтва ў тым, што, нягледзячы на ўсё самазнішчэнне і самаразбуральнасць, яно «жыве і плануе выжыць надалей». І гэта, пэўна, самы вялікі плюс — як чалавецтва ў цэлым, так і беларускай эканомікі ў прыватнасці.**




Што ж да эканамічных вынікаў года — яны не вельмі суцяшальныя. Але калі яны былі суцяшальныя?

**Перамовы з Масквой**

Глабальная спрэчка Лукашэнкі з Пуціным наконт «падатковага манёўру» Расіі — гэта, бадай, самы свежы прыклад таго, што можна назваць правалам у беларускай эканоміцы.

Канешне, можна шмат казаць пра тое, што Расія ў аднаасобным парадку парушыла «правілы гульні». Па-першае, пералічэнне ў беларускі бюджэт экспартных пошлін на нафту (яны знікаюць з увядзеннем «падатковага манёўру»), прадугледжвалася дамовай пра Еўразійскую эканамічную супольнасць. Па-другое, менавіта па настаянні Расіі стварэнне адзінага рынку энергарэсурсаў было перанесенае «да 2025 года». Каб не гэтае патрабаванне, уступленне ў дзеянне міжнароднай дамовы аб фарміраванні агульнага электраэнергетычнага рынку ЕАЭС павінна было адбыцца ў 2019 годзе — то бок амаль зараз. Пра гэта, у прыватнасці, казаў чалец калегіі (міністр) па энергетыцы і інфраструктуры ЕЭК Таір Мансураў у 2015 годзе.

Можна доўга разбірацца, хто каму вінен, — і гэтым, безумоўна, будуць шмат займацца ў наступным годзе. Але сам факт скандалу прадэманстраваў адно — вельмі вялікую эканамічную ўразлівасць «беларускай мадэлі развіцця». Канешне, некалькі соцень мільёнаў долараў на год на дарозе не валяюцца, але… Пабачыўшы гэтую істэрыю, Расія зразумела, як для нас важныя гэтыя грошы. І ў яе з'явіўся дадатковы рычаг шантажу беларускага кіраўніцтва…

**«Па пяцьсот»**

З аднаго боку, банкаўская сістэма працуе даволі добра. Афіцыйная гадавая інфляцыя амаль на 100 працэнтаў укладзецца ў спрагназаваныя паказчыкі. Курсы валют застаюцца больш-менш стабільнымі — нават калі ўзнікае нейкая турбулентнасць на расійскіх рынках. Улады ўстрымліваюцца ад звыклага нам сцэнару дэвальвацыі, хаця, можа, і хацелася б такім чынам «падняць» экспарт прадукцыі.

Але… Хто цягнуў за язык таго ж Румаса казаць, што «сярэдні заробак у верасні дасягне 1000 рублёў і больш зніжацца не будзе»? У выніку вераснёўскі заробак не вырас, а нават упаў. За кастрычнік Белстат казаў, што намінальны налічаны заробак склаў 999,7 рубля па краіне. Але «намінальны налічаны заробак» — гэта заробак без уліку падаткаў і збораў. Рэальны — ніжэйшы.

Нават калі ўлады дэманстратыўна «нагоняць» тысячу рублёў заробку ў сярэднім у снежні, гэта не будзе лічыцца дасягненнем. Каб мы ў гэта паверылі, такі заробак павінен пратрымацца хаця б паўгода. Ужо былі перыяды, калі ў адным месяцы ён перасягаў запаветныя «пяцьсот», а потым рэзка падаў.

І наўрад ці гэтыя паказчык будзе дасягнуты ў будучыні. Першы намеснік міністра фінансаў Юрый Селіверстаў, прадстаўляючы ў парламенце праект закона аб рэспубліканскім бюджэце на наступны год, сказаў, што сярэдні заробак бюджэтнікаў у Беларусі прадугледжаны да 810 рублёў.

Ён гэта прадставіў як «рост заробкаў». Але TUT.BY адзначыў, што ў мінулым годзе ўрад таксама агучваў планы, што да канца 2017 года ў бюджэтных арганізацыях будуць заробляць у сярэднім па 800 рублёў. У выніку ў бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў 2017 годзе склала 618,7 рубля, у снежні мінулага года — 769,4 рубля. Намінальная. Не рэальная.

**Няспраўджаныя спадзяванні**

Напрыканцы 2017 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў два маштабныя дакументы. Гэта былі дэкрэт №7 аб развіцці прадпрымальніцтва і дэкрэт №8 аб развіцці лічбавай эканомікі. На іх ускладаліся вельмі вялікія спадзяванні, якія пакуль не спраўдзіліся.

Прычым, дэкрэт пра прадпрымальніцтва не спраўдзіўся ў такой ступені, што кіраўнік прадпрымальніцкай арганізацыі «Перспектыва» Анатоль Шумчанка на сустрэчы ў снежні гэтага года заявіў: «Нас мэтанакіравана знішчаюць». І зноў — праблема ў ЕАЭС. Расія не выконвае нормы гэтай арганізацыі — прынамсі, не дае накладных дакументаў. А беларускіх прадпрымальнікаў, якія возяць рэчы з Расіі, прымушаюць такія дакументы мець. Канешне, кантралюючыя органы адмовіліся ад канфіскацыі тавару, але, з-за адсутнасці накладных, пакінулі канфіскацыю ад рэалізаванай выручкі да 50 працэнтаў, кажа Шумчанка. А калі такая накладная не адна?

Акрамя таго, набыла моц пастанова, згодна з якой арандатарам (чытай — камерсантам у любой гандлёвай кропцы) трэба пакрываць, акрамя арэнднай платы і камунальных плацяжоў, яшчэ і незразумелыя «выдаткі на ўтрыманне будынку». Што ў гэтае паняцце ўваходзіць, невядома. У выніку кошт «камуналкі» для прадпрымальнікаў вырас (месцамі, бо кожны вылічвае гэта па-свойму) у 14 разоў, і бізнес-саюзы нават вымушаныя былі звярнуцца з гэтай нагоды ва ўрад і Адміністрацыю прэзідэнта.

Што ж да дэкрэту №8 — Сінявокая думала пра блокчэйн, крыптавалюты, і іншае. Але «крыпта» (як, дарэчы, папярэджвалі многія) сталася «пірамідай», і зараз «майніць біток» (здабываць біткойн), пасля яго падзення на рынках, папросту нявыгадна. За 9 месяцаў 2018 года рэзідэнтамі Парку высокіх тэхналогій сталі каля 200 новых кампаній. Але мы пакуль не бачым іх дзейнасці «ў наяўнасці». Прынамсі, дагэтуль дашлець даведку пра заробак у «адно акно» даводзіцца дасылаць поштай (папяровай) ці прыносіць асабіста. З дамовамі і іншымі дакументамі дзяржорганаў — тое ж самае: «Раздрукуйце ў двух экземплярах, падпішыце і прынясьце нам».

Далёка, вельмі далёка нам да лічбавай краіны і галасавання па е-мэйле.

**Што спрацавала**

А вось што было добра для эканомікі і іміджу краіны — гэта беларускі «бязвіз». Толькі праз Нацыянальны аэрапорт у Мінску без айчыннай візы прайшлі 179 тысяч турыстаў, паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Кравец.

Пяцідзённы бязвізавы рэжым для грамадзян 80 краін быў уведзены з 12 лютага 2017 года. З 27 ліпеня 2018 года «бязвіз» быў падоўжаны да 30 дзён.

Больш за ўсё іншаземцаў праз Нацыянальны аэрапорт Мінск па бязвізавым уездзе прыехала за гэты час з Германіі — больш за 28 тысяч, з Польшчы — больш за 16 тысяч, Італіі — больш за 15 тысяч, Вялікабрытаніі і ЗША — прыкладна па 12 тысяч.

Бязвізавым уездам у Гродна і ў беларускую частку Аўгустоўскага канала з кастрычніка 2016 года скарысталіся больш за 134 тысячы турыстаў. Белавежскую пушчу і турысцка-рэкрэацыйную зону «Брэст» са студзеня гэтага года наведалі больш за 15 тысяч чалавек.

Гэта паказвае вялікі беларускі турыстычны патэнцыял. І, адпаведна, — грошы і імідж краіны. Аднак пакуль 30-дзённым «бязвізам» можа карыстацца толькі ў Нацыянальным аэрапорце. Чаму так? Незразумела. Але зразумела, што такія варыянты трэба пашыраць.

У цэлым вынік года такі: беларуская эканоміка не жыве — выжывае. Для таго, каб яна жыла, патрэбны істотныя змены правілаў гульні. І найперш нават не ў эканоміцы — у палітыцы. Патрэбнае прыняцце нармальных зразумелых законаў пра абарону інвестыцый, пра прыватызацыю, пра нармальную судовую сістэму, якая б абараняла інвестараў і прадпрымальнікаў. Патрэбная самастойная дзейнасць урада і, не пабаюся гэтага слова, сапраўдны падзел уладаў на выканаўчую, заканадаўчую і судовую. І трэба ўрэшце неяк злезці з расійскай «нафтагазавай іглы».

Карацей, патрэбныя сістэмныя перамены. Хворага прастудай выратуюць пігулкі, але мы ўжо ў тым стане, што нам дапаможа толькі хірургічнае ўмяшанне.

**Таццяна Лісічэнка**
**"Новы Час"**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# «ДА ВАМ САМИМ НЕ ЗАХОЧЕТСЯ ВХОДИТЬ В РОССИЮ»

**Несмотря на политические споры между Беларусью и Россией в последние месяцы, обычные люди продолжают ездить в гости друг к другу. Беларусь остается популярным направлением выходного дня для россиян. TUT.BY спросил у туристов из России, которые гуляют в эти дни по Минску, о делах насущных. Нужна ли странам «более глубокая интеграция»? Что они думают о нашей независимости, какие видят отличия между белорусами и россиянами?**

**«Когда политики говорят про „интегрироваться", вообще не понимаешь, что для них это может значить»**

Мария и Максим приехали из Казани с сыновьями. Мария — учитель начальных классов, муж — преподаватель в техникуме. В Беларуси семья «раз десятый», потому что Максим отсюда родом.

— Минск моей молодости, Минск 90-х и даже начала нулевых — совсем разный город, — рассказывает Максим. — На наш взгляд, Минск с каждым годом становится более европейским.

По уровню жизни семья сравнивает столицу Беларуси с Казанью.

— Хотя наши знакомые приезжали сюда из Москвы, потом жаловались, вернувшись, что здесь люди бедные, бизнесу хода не дают, — какой-то другой совершенно взгляд. Не знаем, нам так не кажется.

— Недавно в Беларусь приезжал ваш премьер-министр Дмитрий Медведев. Предложил Беларуси более глубоко интегрироваться. Например, чтобы у стран были единая валюта, единый суд, парламент. Что вы думаете на этот счет?

— Политики когда говорят «интегрироваться», то вообще не понимаешь, что для них это может значить. Так как сейчас — хорошо, — уточняет Мария.

— На наш взгляд, больше, чем сейчас, интегрироваться не нужно, — говорит Максим. — Люди живут рядом, дружат и не мешают друг другу, а вот чтобы прямо одна экономика, одно государство — мне кажется, это лишнее.

Семья считает, что «самая соль» Беларуси в том, что это маленькое отдельное государство.

— Все-таки Россия — это империя и у нее везде имперские амбиции прослеживаются. Москва горит огнем, полыхает, а чуть съедешь в глубинку... Возможно, и у вас есть похожее, но все равно больше чувствуется, что люди относятся по-свойски, по-хозяйски к своей стране…

**«Зачем единый президент? В России и так „президент" города, „президент" области, президент страны»**

Ирина и Евгений — из Нижнего Новгорода, Ирина — врач, Евгений — строитель. Они ездят в большие выходные в разные российские города и в теплые страны, а теперь вот решили посмотреть Беларусь. Попутно россияне сокрушаются, что в эти дни из Минска почти невозможно добраться в Хатынь: туристов туда организованно отказываются везти.

По их оценкам, уровень жизни минчан соотносим с уровнем жителей Нижнего Новгорода. Цены тоже соотносимые, только в Минске дешевле проезд на общественном транспорте и шоколад.

Что касается политики, тут семья уверена, что «между простыми людьми мосты давно уже наведены».

— Это политики что-то делят, а на наш взгляд, ничего менять не надо.

— Но в Союзном договоре у нас говорится о единой валюте, едином суде...

— Зачем это? У вас свой устав, у нас — свой. Будем добрыми соседями, но не нужно лезть со своим уставом в чужой монастырь.

— И единого президента не надо?

— Зачем? У нас и так президентов хватает: «президент» города, «президент» области, президент страны...

*(скарочана)*

**tut.by**

КАНФЕРЭНЦЫЯ

# НЯ ТРАПІЦЬ У ПАЛОН «РУССКОГО МИРА»

**Канфэрэнцыя «Беларуская дзяржаўнасьць. Гісторыя і сучаснасьць», якая прайшла ў Віцебску 5 студзеня, узьняла пытаньні: станаўленьня беларускай нацыі; утварэньня беларускай дзяржаўнасьці; пэрспэктывах яе захаваньня ва ўмовах расейскага эканамічнага і інфармацыйнага ўплыву.**

Канфэрэнцыю арганізавалі прадстаўнікі гарадзкой дэмакратычнай супольнасьці — запрасілі вядомых сталічных навукоўцаў і мясцовых дасьледчыкаў. Актавая заля абласной бібліятэкі была поўнай: слухачы на канфэрэнцыю прыехалі нават з рэгіёнаў.

**«Віцебск – гэта Беларусь, а не пляцоўка для стварэньня «саюзаў» з Расеяй»**

Размове пра беларускую ідэнтычнасьць і дзяржаўнасьць папярэднічала ўскладаньне кветак да помніка вялікаму князю Альгерду, які неаднаразова «прыхіляў дзіду сваю да брамы маскоўскае». У часы яго кіраваньня сярэднявечны Віцебск дасягнуў найвышэйшага росквіту, і гэтую постаць гараджане лічаць увасабленьнем моцы і самабытнасьці горада.

Ідэя правесьці канфэрэнцыю, падкрэсьліўшы адметнасьць Віцебску насуперак распаўсюджаным меркаваньням пра тое, што гэта «самы расейскі» з усіх беларускіх гарадоў, зьявілася паўгода таму. Пра гэта распавёў у пачатку імпрэзы яе ініцыятар Хрыстафор Жаляпаў…

Падчас канфэрэнцыі выступоўцы неаднаразова згадвалі і выказваньне Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што «Магілёў — больш расейскі, чым беларускі», бо за гэтымі словамі праглядаецца і ўмоўная паралель зь Віцебскам. Абодва гарады знаходзяцца на памежжы з Расеяй, і абодва ледзьве ня сталі яе часткай неўзабаве пасьля абвяшчэньня БССР — дакладней, ССРБ (Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь), якое адбылося ў пачатку студзеня 1919 г. у Смаленску.

Ці было гэта праявай свабоднага волевыяўленьня беларускага народу, як пісалі ў савецкіх падручніках, калі стварэньне БССР ініцыявалася «з Крамля»? Якімі былі сапраўдныя мэты расейскіх стваральнікаў «беларускай дзяржаўнасьці», што кіраваліся парадай Уладзіміра Леніна пра стварэньне «буфэрнай рэспублікі» на мяжы с Польшчай? Пра гэта распавяла дасьледчыца Ніна Стужынская, падкрэсьліўшы, што фармулёўка пра «мару беларусаў стацца часткай вялікай сацыялістычнай краіны» выглядае сумнёўным нават для сучасных беларускіх уладаў.

Невыпадкова 100 год БССР гучна не адзначалася на дзяржаўным узроўні, а дазвол на сьвяткаваньне стагодзьдзя БНР улады ўсё-ткі далі, лічыць дасьледчыца. Аднак у сучасных падручніках па гісторыі Беларусі, перапрацаваных у канцы 1990-х, паўтараецца прасавецкая вэрсія выкладаньня падзеяў, канстатавалі слухачы.

**Віцебск, Полацак і Ворша — эўрапэйскія гарады, але памяць пра гэта зьнішчылі**

З паведамленьнямі пра гісторыю гарадоў Віцебшчыны выступілі гісторыкі Сяргей Тарасаў і Ігар Цішкін, краязнаўцы Міхась Баўтовіч і Ігар Казьмярчак. Яны казалі пра адметнасьці, што сьведчаць пра адрознасьць лёсаў Віцебска, Полацка і Воршы ад расейскіх гарадоў.

Адметнае архітэктурнае аблічча таго ж Віцебска ў большай частцы страчанае, падкрэсьліў Цішкін.

«Віцебск паўставаў як эўрапэйскі горад. Але віцебскім уладам заманулася паставіць тут помнік княгіні Вользе, якая нібыта заснавала горад, — паставіць насуперак гістарычным фактам. Кіраўнікі гораду ня дбаюць пра аднаўленьне архітэктуры, страчанай ня толькі падчас апошняй вайны, але й зьнішчанай сьвядома ў паваенны час. Затое ў нас ёсьць помнік Пушкіну і «залатой рыбцы». Нібыта ў культурнай палітыцы ўлады ўвасабляюць колішняе выслоўе Хрушчова — «чым хутчэй мы загаворым па-расейску, тым хутчэй збудуем камунізм», — кажа гісторык.

Пра расейскі інфармацыйны ўплыў, у якім патанае Віцебск, дый іншыя беларускія гарады, разважаў мясцовы журналіст Зьміцер Казакевіч. Зь яговых назіраньняў, гэта ўплыў перадусім тэлевізійны — як расейскіх тэлеканалаў, так і мясцовых, што ствараюць пераважна расейскамоўны кантэнт. Супрацьпаставіць гэтаму практычна няма чаго: у Віцебску няма ніводнай беларускай клясы, тым болей — школы, зазначыў пачэсны сябра абласной рады ТБМ Ёсіф Навумчык.

**Рыхтавацца да нішчымніцы, але пашыраць беларушчыну**

Паводле палітоляга Андрэя Ляховіча, які разважаў пра пэрспэктывы адносінаў з Расеяй, Лукашэнка наўрад ці пагодзіцца ахвяраваць незалежнасьцю Беларусі дзеля эканамічнай расейскай падтрымкі. Бо гэта пагражае ягонай асабістай бясьпецы праз страту пазыцыі кіраўніка дзяржавы. Але ў такім выпадку Расея можа пазбавіць Беларусь нафтавых датацый, а гэта пацягне за сабой эканамічны спад і зьбядненьне насельніцтва.

Аднак, незалежна ад далейшай хады падзеяў, беларусам варта дбаць пра захаваньне нацыянальнай ідэнтычнасьці. Асабліва тут, у памежных рэгіёнах, дзе ўплыў «рускага сьвету» найбольш адчувальны. Таму ўдзельнікі канфэрэнцыі выклалі тэзы, якія варта ўключыць у рэзалюцыю да накіраваць яе ўладам пасьля канчатковай дапрацоўкі. Сярод патрабаваньняў віцяблянаў — абмежаваньне прапагандысцкіх перадач расейскіх тэлеканалаў, стварэньне беларускамоўных клясаў, забарона дзейнасьці шэрагу грамадзкіх аб'яднаньняў і інтэрнэт-паблікаў прарасейскага накірунку.

Але самае істотнае, пагадзіліся ўдзельнікі канфэрэнцыі, — гэта пашырэньне беларушчыны на ўласным прыкладзе: ня быць абыякавымі да праяваў чужога гвалтоўнага ўплыву, паведамляць пра кожны выпадак антыбеларускай агрэсіі ў адпаведныя ворганы і ў СМІ, і самім «лезьці ў скрыню», зважаючы на прапагандысцкі магчымасьці тэлевізіі.

**БС**
**"Радыё Свабода"**

КОНФЛИКТ

# СТАНЕТ ЛИ ЛУКАШЕНКО ДРАЗНИТЬ ИМПЕРИЮ?

**В дни новогоднего информационного безрыбья российские СМИ охотно обсасывают тему возможной инкорпорации Беларуси. Тема вдруг стала топовой после «ультиматума Медведева» от 13 декабря и двух последующих бесплодных встреч Владимира Путина с Александром Лукашенко, перед которым поставили ребром вопрос «продвинутой» интеграции (иначе субсидии будут стремиться к нулю).**

В заявлениях московских комментаторов много обидного, цепляющего, трактовки часто однобокие, факты искажаются. Однако эмоциональный белорусский лидер стоически молчит. Белорусская государственная пресса, как обычно, зеркалит его позицию.

**В России прикидывают, по зубам ли Беларусь**

Вообще-то Лукашенко обнажил подоплеку предложений премьера РФ Дмитрия Медведева на следующий же день, 14 декабря, расшифровав побуждение к союзному строительству по полной программе, в соответствии с договором 1999 года, как призыв разрушить страну и вступить в Россию.

Но потом белорусский президент приглушил звук, а по итогам переговоров, прошедших в Кремле 29 декабря, и вовсе не проронил ни слова.

Между тем показательно, в каком ключе обсуждается острейший с точки зрения белорусской независимости вопрос в СМИ восточных соседей. Тамошние комментаторы рассуждают, например, самый ли это удобный для Путина способ продлить свою власть после 2024 года (может, проще переделать конституцию?). Или — удастся ли России переварить такой кусок, найдутся ли деньги на «еще один Крым».

Мыслью, что лишать соседей государственности в принципе не комильфо, никто особо не грузится. Зато звучит такое соображение: а кто там будет так уж цепляться за суверенитет, если практически все по-русски говорят? Типичная для московского взгляда на «ближнее зарубежье» ошибка: русскоязычные — значит принадлежат к «русскому миру» (и, конечно, жаждут воссоединиться).

**Белорусского президента троллят и гнобят**

Много обидного восточные соседи пишут, говорят в эфире и лично о Лукашенко. Обвиняют в иждивенчестве, нахлебничестве, двуличии. После совещания, которое он провел 24 декабря, российские СМИ выстрелили заголовками в духе «Лукашенко отказался называть Россию братской».

То есть с точностью до наоборот. Ведь руководитель Беларуси тогда заметил, что вынужден менять лексику: «Я уже не говорю „братским государством", потому что, как меня информируют, в России это не воспринимается. Якобы пришли новые люди, которым это понятие неприемлемо. Что же, будем партнерами».

На сайте «Московского комсомольца» 29 декабря вышла публикация под заголовком «Подавленный Лукашенко сдался Путину: общая власть России и Белоруссии». Заголовок явно высосан из пальца, из текста никак не следует, что белорусский руководитель сдался. Но это характерная для российских СМИ подача темы.

Вдобавок последние дни декабря ознаменовались вбросами через телеграм-каналы, социальные сети в духе: «батька» перед Новым годом выступит с отречением от власти.

Конечно, никакого «я устал, я ухожу» не прозвучало. Но иные белорусские патриоты были разочарованы тем, сколь невнятным, беззубым оказалось новогоднее обращение официального лидера: а где про готовность идти в землянки ради независимости и все такое?

Московские же СМИ и в этом спиче усмотрели тайные антироссийские смыслы: мол, «батька» ничего не сказал о более тесной интеграции…

**Сжигать мосты Лукашенко не рискнет**

По мнению же Валерия Карбалевича, эксперта аналитического центра «Стратегия» (Минск), белорусские власти пока в принципе «не определились, что делать» в контексте «ультиматума Медведева».

«Лукашенко чего-то ждет. Возможно, некие двери остались открытыми», — отметил аналитик в комментарии для Naviny.by.

Публичный скандал белорусское руководство если и надумает устроить, то он будет дозированным, умеренным, предполагает собеседник: «Сжигать мосты Лукашенко не станет».

Кроме компенсации за налоговый маневр в нефтяной сфере, вокруг чего сейчас идет главный торг, от Москвы зависит еще очень многое — и цена на газ, и кредиты, и условия доступа белорусской продукции на российский рынок. Минску есть что терять, напомнил Карбалевич.

Он не думает, что даже в ситуации затяжного конфликта с Москвой власти дадут больше свободы негосударственным СМИ. Скорее, вероятно продолжение точечных репрессий, в частности против спутникового телеканала «Белсат», прогнозирует аналитик.

Добавлю: возможно, наверху цинично полагают, что независимые медиа так или иначе будут принципиально стоять на позициях защиты суверенитета. А дай этим журналюгам свободнее дышать — греха не оберешься.

У всех авторитарных режимов — экзистенциальный страх перед неподконтрольной прессой, а теперь вот — перед интернетом. Белорусские начальники не успевают, бедолаги, переписывать закон о СМИ в тщетных надеждах обуздать Сеть…

Да, еще есть время лавировать и есть шанс что-то выцарапать у Москвы. Более двух десятилетий такая тактика по большому счету приносила Минску успех. Но, как говорят белорусы, «да пары збан ваду носіць». В какой-то момент может оказаться, что в надежде сохранить все как было — все бездарно проиграно.

**Александр Класковский**
**"Белапан"**

Заснавальнік і рэдактар: Станкевіч Георгій Мікалаевіч

Адрас рэдакцыі: Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

Падпісана да друку 16.01.2019 у 16.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.